

# Беларус

**«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова».**
*— Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

**№432 Люты 1996г.**
Год выд. 45

**BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.**
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## «ДАР САКАВІКА»

Штогоду, ужо блізу 50 гадоў, у сакавіку, Фонд Рады БНР праводзіць збор дабраахвотных ахвяраваньняў на спэцыяльны фонд «Дар Сакавіка». Сабраныя сродкі разьмяркоўваюцца ці Радай БНР, ці Прэзыдыюмам Рады на розныя нацыянальныя патрэбы: з фонду «Дар Сакавіка» даваліся датацыі на кнігі і вольную прэсу, прызначалася дапамога на арганізацыю канфэрэнцыяў, сустрэчаў і г.д.

Да нядаўняга часу выглядала, што са зьменамі палітычнага рэжыму і становішча на Бацькаўшчыне — здавалася камуністычная імпэрыя развалілася — хутка будуць зьдзейсьненыя ідэалы дзеля якіх БНР выйшла на эміграцыю ды праводзіла на захадзе сваю дзейнасьць панад 70 гадоў і будзе будавацца вольная і дэмакратычная Беларуская Нацыянальная Дзяржава. Але падзеі пайшлі іншым шляхам.

У ліпені 1994 году ў Беларусі быў выбраны прэзыдэнт, а потым сфармаваны і ўрад, які пачаў не адбудову беларускае дэмакратычнае дзяржаўнасьці, а робіць крокі, каб беларускую дзяржаву зьліквідаваць. Відавочна, Масква хітра й прадумана дапамагае Аляксандру Лукашэнку ў гэтым працэсе.

Дык, зусім зразумела, што і ўрад БНР і злучаныя з БНР арганізацыі і плыні будуць працаваць на эміграцыі далей — нацыянальная палітычная дзейнасьць на эміграцыі не прыпыніцца, але ўзмоцніцца. Мы, як і раней, будзем інфармаваць заходні сьвет аб палітычнай сытуацыі на бацькаўшчыне, аб анты-беларускай палітыцы цяперашняга ўраду Беларусі ды катастрафічных насьледках Чарнобыльскае трагэдыі для нашага народу.

Відавочна, для нашае дзейнасьці патрэбныя матар'яльныя сродкі. Таму мы зварачаемся да нашае грамадзкасьці, як і мінулымі дзесяцігодзьдзямі, шчодра ахвяраваць на наш нацыянальны фонд «Дар Сакавіка», каб мы маглі і працаваць і даваць дапамогу нашаму нацыянальнаму руху.

Просьба да ахвярадаўцаў перасылаць ахвяраваньні на пададзены адрас.

Жыве Беларусь!

**Д-р Барыс Рагуля**
**за старшыню Рады БНР,**
**Віталь Кажан,**
**скарбнік Рады БНР**

Vitaly Kazan
29 Pennington-Lawr. R.D.
Pennington, NJ 08534

## ЗАМАХ НА НАЦЫЮ

У часы царыцы Кацярыны II, калі беларускую тэрыторыю займалі расейскія войскі, царскі пагляд у дачыненьні да Беларусі быў сфармуляваны гэтак: зрабіць нова-забраны край рускім ня толькі ў назове, але перарабіць і душы людзей.

Крыху пазьней, у 19-ым стагодзьдзі расейская палітыка на Беларусі была акрэсьленая іншай фразай: на Беларусі перавярнуць усё дагары нагамі, каб зацерці памяць народу аб мінулым.

Цяперашні прэзыдэнт Беларусі А. Лукашэнка сугучна царска-расейскім выказваньням рэк так: «Беларусь — гэта пройдзены этап».

Аднамэтнасьць у гэтых «красамоўных выказваньнях» вачавідкі: беларускую нацыю трэба выкараніць. І сёньняшнія кіраўнікі рэспублікі, як і чужацкія адміністратары напрацягу мінулых двухсот гадоў, праводзяць беларуса-вынішчальную палітыку: зачыняюць беларускія школы, мяняюць падручнікі, дзе падаецца гісторыя Беларусі, русыфікуюць дзяржаву.

Але, што-ж адбываецца ў сапраўднасьці? Ня гледзячы на русыфікацыю, імкненьне беларускае нацыі да адраджэньня ня было выкаранёнае. Калі на пачатку стагодзьдзя, пры закладзінах Беларускае Сацыялістычнае Грамады было ня больш як дзесятак асобаў, дык у 1917-1918 гадох у нацыянальным руху ўдзел брала тысячы грамадзянаў. Рух значна ўзмоцніўся і колькасна павялічыўся і ў дваццатыя-трыццатыя гады (Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада, Нацдэмы, Беларусізацыя) ды наймацней нацыянальныя імкненьні беларусаў былі выказаныя ў 1991-95-х гадох у Беларусі. У гэтым апошнім этапе на ўвазе маюцца беларускія мільённыя галасы, якія жадалі аднаўленьня беларускае нацыянальнае дзяржавы. На вялікі жаль, нацыянальны патэнцыял ня быў яшчэ дастаткова моцным і, магчыма, не зусім падрыхтаваны да змаганьня.

Дык, бяручы пад увагу гэты паказьнік, што лік адраджэнцаў расьце, няма падставы думаць, што працэс адраджэньня спыніцца. Рух будзе расьці, хоць сёньняшні замах на беларускасьць і наносіць вялікую шкоду.

І, як дапамога нацыянальнаму адраджэньню, павінна сёньня служыць інфармацыйная служба незалежніцкае дыяспары — дыяспара мусіць інфармаваць дэмакратычны сьвет аб чароднай праяве расейскага імпэрскага нацыяналізму ў Беларусі і небеларускасьці цяперашняга прэзыдэнцкага апарату Рэспублікі Беларусь.

**Вітаўт Кіпель**



## РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

### АСЬВЕДЧАНЬНЕ, ЛЮТЫ 1996

Прэзыдыюм Рады БНР, разгледзеўшы палітычны, эканамічны ды культурна-сацыяльны стан у Беларусі сьцвярджае наступнае:

Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка нелегальна пераймае ўсю ўладу ў Рэспубліцы у свае рукі. Ён поўнасьцю ігнаруе Канстытуцыю Дзяржавы, адмаўляецца выконваць пастановы Вярхоўнага Савету і Канстытуцыйнага Суду, ды імкнецца кіраваць краінай прэзыдэнцкімі ўказамі. У дэмакратычных краінах за гэткія парушэньні законаў кіраўнікам дзяржавы парлямэнты, як звычай, выносяць прысуд праз імпічмэнт.

Прэзыдэнт Лукашэнка адкінуў свае перадвыбарчыя лёзунгі (паправіць эканаміку, выкараніць карупцыю), але затое ўзяў цьвёрды курс на злучэньне Рэспублікі Беларусь з Расейскай Фэдэрацыяй. Ён дабраў сабе дарадчыкаў з расейска-савецкага асяродзьдзя, фізычнай сілай зьнішчыў палітычную апазыцыю ў Парлямэнце, скасаваў дэпутацкі імунітэт, разагнаў свабодныя прафсаюзы, увёў поўную цэнзуру на сродкі масавай інфармацыі, робіць крокі зьліквідаваць свабодную прэсу. Бясспрэчна, у сфэры палітычнай, паступаваньні Прэзыдэнта Лукашэнкі не могуць быць названыя інакш як дыктатарскія, антыдэмакратычныя.

У галіне эканамічнага жыцьця, у часы гаспадараньня прэзыдэнта Лукашэнкі ўсе паказьнікі эканомікі пайшлі на ніз, ды робяцца нэрвовыя прысьпешаныя намаганьні як жутчэй увесьці Беларусь у рэчышча расейскае эканамічнае палітыкі.

У сфэры дзяржаўнае бясьпекі А. Лукашэнка падтрымвае лякаваньне расейскіх войскаў на тэрыторыі Беларусі, даючы расейцам аднабаковыя эканамічна-мілітарныя выгады, але шкодныя для Рэспублікі Беларусь.

За паўтары гады прэзыдэнцтва А. Лукашэнкі, беларуская мова была колькі-разова зьняважаная на карысьць мовы расейскай, неканстытуцыйна праведзены "рэфэрэндум" давёў мову чужое дзяржавы (расейскую) да ўзроўня дзяржаўнае ды пачаў нішчыць беларускасьць з самых нізоў, са школьніцтва.

Парушаючы Канстытуцыю, у Рэспубліцы былі ўведзеныя савецкія сымболіка й сьцяг.

Дзякуючы адміністраваньню Прэзыдэнта Лукашэнкі, Рэспубліка Беларусь, у вачох як сваіх блізкіх суседзяў, гэтак і дэмакратычнага заходняга сьвету сталася пасьмешышчам па ўсіх кірунках грамадзка-палітычнага жыцьця й дзяржаўнага ладу. Асабліва абражалі беларускі гонар выказваньні А. Лукашэнкі аб гітлераўскай мадэлі дзяржаўнасьці для Беларусі ды ягоныя донкіхотаўскія намаганьні аднавіць Савецкі Саюз.

Бяручы вышэйсказанае на ўвагу, Прэзыдыюм Рады БНР войстра пратэстуе супраць праводжанай А. Лукашэнкам палітыкі і прэзыдэнцкага самапраўя ды заклікае беларускае грамадзтва як на Бацькаўшчыне, гэтак і ў дыяспары рэагаваць на гэтыя падзеі. Прэзыдыюм Рады БНР заклікае беларускія арганізацыі ў замежжы, беларускіх дзеячоў ды грамадзянскія суполкі, складаць мэмарандумы-пратэсты ва ўрады і дзяржаўныя дэпартамэнты ў краінах пражываньня беларусаў, зьвяртаючы ўвагу ды падкрасьляючы небясьпеку адраджэньня камуна-фашызму ў Рэспубліцы Беларусь.

**Прэзыдыюм Рады БНР**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# КАНСУЛЬТАЦЫЙНАЯ НАРАДА Ў БЕЛЫМ ДОМЕ

У студзені 1994 году адміністрацыя прэзыдэнта Клінтана выступіла была за падтрымку паступовае інтэграцыі новых дэмакратычных дзяржаваў цэнтральнай і ўсходняй Эўропы ў абаронную структуру Паўночна-атлянтыцкага саюзу (НАТА), якая для новых членаў была-б вельмі карысным крокам не толькі ў вайсковым, але і ў палітычным і эканамічным аспэктах. У той час гаварылася, што першымі кандыдатамі ў пашырэньні НАТА былі Польшча, Чэхія, Вэнгрыя і, магчыма, Славаччына, з пазьнейшым разглядам справаў іншых краінаў, якія падпісалі пагадненьне «Партнэрства дзеля міру» якія пажадалі б далучыцца да НАТА. (Паміж іншага, нягледзячы на тое, што Беларусь падпісала гэтае пагадненьне, паводзіны ейнага прэзыдэнта і ягонага ўраду прасякнутыя такою варожасьцю да духу і прынцыпаў, якія яднаюць членаў НАТА, што інтэграцыя Беларусі ў гэтую арганізацыю застаецца малаверагоднай нават у далёкай пэрспэктыве).

Паколькі на працягу апошніх двух гадоў ніякіх практычных крокаў у працэсе інтэграцыі не назіралася, дык, апошнім часам, пытаньне пашырэньня Паўночна-атлянтыцкага саюзу ўсё часьцей абмяркоўвалася на паседжаньнях Цэнтральнай і Усходнеэўрапейскай Кааліцыі — аб'яднаньня арганізацыяў этнічных групаў Злучаных Штатаў, да якога належыць і Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі. 2-га лютага ў дыскусіі пры абмеркаваньні пытаньня інтэграцыі прыймаў удзел госьць паседжаньня Кааліцыі былы прэзыдэнт Літвы Вітаўтас Ландсбэргіс. Кааліцыя аднагалосна пастанавіла зьвярнуцца да прэзыдэнта Клінтана, каб ён, падаўшы ініцыятыву, узьняў пытаньне неадкладнага пашырэньня НАТА сярод цяперашніх членаў гэтае арганізацыіі, гэтым самым, адкінуў пагражальныя пратэсты Расеі, якая выступае ня толькі супроць пашырэньня НАТА, але супроць усякіх зьменаў у цяперашнім статусе дзяржаваў цэнтральнай і ўсходняй Эўропы, асабліва тых, якія да нядаўняга часу былі ў складзе Савецкага саюзу. У адказ ў зварот Кааліцыі, прэзыдэнт Клінтан запрасіў усіх яе прадстаўнікоў ў Белы Дом на кансультацыйную нараду, якая й адбылася 12-га лютага.

У дадатак да пашырэньня НАТА, Кааліцыя ўнесла на абмеркаваньне пытаньні эканамічнае дапамогі з боку ЗША новым дэмакратычным дзяржавам, расейскае замежнае палітыкі, абароны правоў чалавека і іміграцыі. Акрамя прэзыдэнта Клінтана, у нарадзе прыймаў удзел кіраўнік Нацыянальнае Рады Бязьпекі Антоні Лэйк з групай сваіх супрацоўнікаў. Ад беларусаў прысутнічалі старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Расьціслаў Завістовіч і Алеся Кіпель, прадстаўнік Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Вашынгтоне.

Згодна з папярэднім дамоўленьнем, апошнія тры пытаньні абмяркоўваліся са сп. Лэйкам, а прэзыдэнт Клінтан засярэдзіў быў сваю ўвагу на пашырэньні НАТА і эканамічнай дапамозе. Ён запэўніў прысутных, што, будучы ініцыятарам інтэграцыі новых дзяржаваў у НАТА, Амэрыка не мяняла і не зьбіраецца мяняць сваіх паглядаў на пашырэньне гэтае арганізацыі. Прэзыдэнт растлумачыў, што ў працэсе інтэграцыі павінны быць разгледжаны палітычныя, эканамічныя, вайсковыя і, нават, юрыдычныя пытаньні і што ўсё гэта забірае шмат часу. Калі-ж і назіраецца павольнасьць працэсу, дык яна, гэтая павольнасьць, залежыць больш ад нашых эўрапэйскіх саюзнікаў, чым ад Злучаных Штатаў, сказаў прэзыдэнт. Трэба памятаць, прадоўжваў прэзыдэнт Клінтан, што працэс пашырэньня павінен атрымаць згоду ад усіх паасобных членаў НАТА. Што тычыцца Злучаных Штатаў, дык інтэграцыя новых дзяржаваў сталася працэсам няўхільным і яго ня спыняць ніякія пратэсты ані Расеі, ані якіх-колечы іншых краінаў.

На заканчэньне прэзыдэнт Клінтан падзякаваў Кааліцыі за падтрымку амэрыканскае палітыкі ў Босніі. Члены Кааліцыі карыстаюцца даверам усіх амэрыканскіх грамадзянаў, сказаў прэзыдэнт Клінтан, бо «вы сталіся сымбалем доўгае барацьбы супроць камунізму і за волю».

**Расьціслаў Завістовіч**

# АБ ПАЛІТЫЧНА-КРЫМІНАЛЬНАЙ АКЦЫІ Ў ВІЦЕБСКУ

## ЗАЯВА СОЙМУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ

22 сьнежня 1995 г. у 19.15 у Віцебску спачатку супрацоўнікам ворганаў унутранных спраў, а потым байцамі амону быў жорстка зьбіты сябра Сойму БНФ, рабочы «Віцебскпраектрэстаўрацыі» Алесь Янушкоўскі. Ніякіх законных падставаў для ўжываньня фізічнай сілы супраць сп. Янушкоўскага не было. Таму Беларускі Народны Фронт расцэньвае гэтае здарэньне, як акт палітычнага пераьледу.

Гэта — працяг палітыкі грубай сілы ўладаў у дачыненьні да палітычных апанентаў, якая летась праявілася ў зьбіцьці дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12 красавіка, разгону ўдзельнікаў шэсьця ў Дзень незалежнасьці ды падаўленьня страйку работнікаў Менскага метрапалітэну.

Сойм БНФ выказвае пратэст з прычыны гэтых ганебных дзеяньняў і патрабуе пакараньня ініцыятараў ды выканаўцаў крымінальна-палітычнай акцыі ў Віцебску.

Сойм БНФ лічыць патрэбным давесьці пра гэта прадстаўнікам дыпламатычнага корпусу і міжнародным праваабарончым арганізацыям.

## *МАСКОЎСКІ ПАТРЫЯРХАТ ПАРЫВАЕ ЛУЧНАСЬЦЬ З КАНСТАНТЫНОПАЛЬСКІМ*

Упяршыню ў гісторыі праваслаўнай царквы Маскоўскі Патрыярх Аляксей 2-гі у часе Багаслужбы 25 лютага сёлета не ўспомніў Патрыярха Канстантынопальскага Барталамэя І-га, вызнаванага ў праваслаўным сьвеце, як Сусьветнага Патрыярха. Незалежныя спэцыялісты сьцьвярджаюць, што гэта пачатак значнага расколу ў праваслаўнай царкве. Прычынай расколу зьяўляецца факт, што Канстантынопальскі Патрыярх прызнаў 20-га лютага сёлета Аўтакефалію Эстонскай Праваслаўнай Царквы насуперак жаданьням і намаганьням Масквы, якая выступала супраць Аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы ў Эстоніі.

## ЗЬНІШЧАЕЦЦА ЗБРОЯ

Згодна з пагадненьнем аб скарачэньні звычайных відаў зброі, Беларусь павінна была зьнішчыць наступныя віды цяжкой зброі: танкаў — 1873, браневікоў — 1441, самалётаў — 130 і гарматаў — 3. З выкананьнем гэтага пагадненьня былі перабоі. У лютым 1995 году прэзыдэнт Лукашэнка загадаў быў спыніць зьнішчэньне, матывуючы нястачай фінансаў. Крок гэты выклікаў занепакаеньне на Захадзе. Пасьля колькіх месяцаў, аднак, Беларусь аднавіла зьнішчэньне зброі. Паводле паведамленьня Беларускага пасольства ў Вашынгтоне ад 21 лютага 1996 году, да 15 лютага сёлета на Беларусі было зьнішчана танкаў 1662 (98 працэнтаў), браневікоў 1314 (91 прац.), самалётаў 126 (97 прац.), гарматаў 3 (100 прац.).

# УЗЬДЗЕЯНЬНЕ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ НА ЭКАСЫСТЭМЫ БЕЛАРУСІ

Пад такім загалоўкам 6 лютага прачытаў даклад на Унівэрсытэце Квэбеку ў Монтрэалі супрацоўнік Інстытуту экспэрымэнтальнай батанікі Беларускай Акадэміі Навук, др. Павал Парфёнаў. Як прынята ў выпадку аўдыторыі іншага кантэнэнту, дакладчык прадставіў Беларусь і апісаў трагічныя вынікі катастрофы ў эканамічным, палітычным, сацыяльным і дэмаграфічным жыцьці краіны. Гаворачы пра экасыстэмы, др. Парфёнаў сказаў што найбольш пацярпелі ад радыяцыйнага забруджаньня лясы і што кожная экасыстэма (лясы, лугі, вільготныя глебы, сельска-гаспадарчыя ўгодзьдзі) розна рэагуюць на радыяцыю.

Дакладчык спыніўся на створаным у 1992 годзе, у Чарнобыльскай зоне, Палескім радыяцыйна-экалягічным запаведніку (200 000 га). Там няма людзей, а таму там інсталявалася вялікая колькасьць млекакормячых капытных (ласі, алені, казулі, дзікі) а таксама мясажэрных (ваўкі, лісіцы). Гэты Палескі запаведнік, сказаў ён, прадстаўляе сабою нязвычайны тэрэн для радыяцыйна-экалагічных дасьледаваньняў.

**Я. Вішневіч**

Паважаныя спадары!

Становішча, у якім цяпер знаходзіцца беларуская мова ў нашай краіне, вымагае грунтоўнага асэнсаваньня, аналізу і навуковых падыходаў да распрацоўкі шляхоў паляпшаньня сытуацыі. Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выступіла зь ініцыятывай правядзеньня **Нацыянальнай навуковай канфэрэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты»**. Канфэрэнцыю мяркуецца правесьці 30 сакавіка 1996 г. у г. Менску.

Запрашаем Вас прыняць удзел у канфэрэнцыі.

*Абвестка-запросіны*

## 23-я МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА Ў САЎТ-РЫВЭРЫ

У Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры (26 So. Whitehead Ave.) адбудзецца 17-24 сакавіка сёлета 23-я выстаўка твораў мастакоў і ўмельцаў зь Нью-Джэрзі і іншых штатаў ЗША, Канады, а таксама Беларусі.

Усіх сардэчна запрашаем! Па інфармацыю тэлефанаваць на нумар: (908) 247-1822.

**Беларускі Мастацкі Клюб у Нью-Джэрзі**

# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД

*(Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч)*

У красавіку сёлета літаратурнаму згуртаваньню «Шыпшына» — 50 год. Тады, у 1946-м, калі паўстала «Шыпшына», пабачыў сьвет і першы нумар часапісу «Шыпшына», якому было наканавана адыграць немалую ролю ў літаратурным жыцьці эміграцыі. Іх было 9 — нумароў, што выходзілі спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША, а разыходзіліся ці не па ўсіх куточках, дзе жылі беларусы. Рэдактар Юрка Ві-цьбіч, аб'яднаўшы вакол згуртаваньня шэраг пісьменьнікаў, сам набіваў матрыцы, клапаціўся пра матэрыял, пра сродкі, якіх заўсёды не хапала — і спадзяваўся, што «Шыпшына» будзе выходзіць яшчэ доўга-доўга. Але-ж з-за матэрыяльных перашкодаў, праз сваркі і непаразуменьні ня выйшаў, хоць быў амаль што гатовы, нумар 10 ў 1950 годзе.

Той нумар меў быць распачаты зваротам «Ад рэдакцыі і выдавецтва»: «Нашыя высокашаноўныя чытачы часта запытваюцца: Чаму «Шыпшына» не друкаваная? Чаму яна не пяройдзе хаця-б на фотадрук? Чаму яна ператварылася з штомесячніка ў штогадовік? Пэўне, нашыя чытачы не сумняваюцца з тым, што нам таксама вельмі хочацца, каб яна сталася друкаванай і штомесячнай, але на перашкодзе гэтаму стаяць дзьве істотныя прычыны: адсутнасьць вольнага часу ў тых, хто рэдагуе часапіс, і адсутнасьць сродкаў у тых, хто яго выдае. Становішча яшчэ значна ўскладняецца тым, што і першая, і другая прычыны амаль цалкам абвальваюцца на плечы аднае асобы, якая і рэдагуе, і выдае «Шыпшыну». Першая прычына больш-менш перамагальная. Няма, або зусім няма ў нас на эміграцыі рэдактароў, якія ў стане прысьвяціць увесь свой час рэдагаванаму выданьню. Перамагаючы стомленасьць пасьля фізычнае працы, яны не зьвяртаючы ўвагі на гадзіньнік, працуюць над сваймі газэтамі і часапісамі, успрымаючы гэтую дадатковую працу як свой грамадзкі абавязак. Аднак другая прычына цалкам залежыць ад чытачоў». Віцьбіч пісаў, што папярэдні нумар меў наклад 400 асобнікаў і амаль цалкам разышоўся, але-ж толькі 17 чытачоў даслалі грошы. І калі другая акалічнасьць будзе вырашана, у 1952 г. будуць выдрукаваны 11, 12 і 13 нумары «Шыпшыны».

Па традыцыі на старонках нумару 10 першым меўся быць выдрукаваны верш У. Дубоўкі «Занадта ціха стала на Парнасе». Былі падрыхтаваны вершы Алеся Салаўя «Вільня», У. Дудзіцкага «Адменная ода», «Каб хоць раз усьміхнулася шчасьце», У. Клішэвіча «Месяц», «У няведамы сьвет другі». М. Кавыля «У акіяне», «Скарпіён», Янкі Юхнаўца «Эскізы», «Чалавек», Міколы Вярбы «Мы сьведчыць будзем», Рыгора Крушыны «Бяздомны бусел», Тодара Лебяды «Дзяўчыне». З прозы меркавалася выдрукаваць абразкі Юркі Віцьбіча «Паданьне аб таямнічым сьвятле» і «Ходзіць па нашай краіне Рагнеда», працяг аповесьці Юркі Жывіцы «Пушча шуміць», апавяданьні Сымона Жамойды «Сінічка», В. Грэсскага «Пагібель сэксота» і К. Юхневіча «Карнавух». Адмысловы разьдзел, прысьвечаны памяці Хв. Ільляшэвіча, зьмяшчаў Віцьбічавы «Дзень добры, Хвёдар», А. Салаўя «Вязьмо ў жалобны вянок», верш М. Кавыля «Хвёдару Ільляшэвічу» і ліст самога Ільляшэвіча да літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына». У разьдзелах «З паэзіі Заходняе Беларусі» зьмешчаны творы Арсеньневай, Геніюш, Максіма Танка, М. Васілька, «З іншанацыянальнай літаратуры» — у перакладах Дубоўкі творы Ю. Янoніса «Мае песьні», «Ці бачыў ты?» і Е. Чарэнца «Вось іду я да вас», урывак з раману С. Максімава «Алім Ахтыраў у Патокіна» (пераклад Віцьбіча) і апавяданьне Сараяна «Грунт пад нагамі» ў перакладзе Міколы Вярбы. У рубрыцы «З клясыкаў ды сусьветнае літаратуры» — пераклады Клішэвіча (Сафо), М. Кавыля (Гётэ), вершы У. Жылкі «Да Пэрсі Шэлі» і Салаўя «Паводля Дантэ». З артыкулаў меркавалася зьмясьціць пераклад Фолкнэра «Аб прызначэньні пісьменьніка» і арыгінальныя: М. Вярбы «Сучасная беларуская літаратура» і Ю. Віцьбіча «Агляд беларускае прэсы».

Творы, прызначаныя да нязьдзейсненага нумару «Шыпшыны», пазьней часткова друкаваліся ў іншых беларускіх выданьнях, уваходзілі ў вершаваныя зборнікі. Ніжэй друкуем у перакладзе Міколы Вярбы (Міколы Сільвановіча) урывак Нобелеўскай прамовы У. Фолкнэра ў Стакгольме ў 1949 г. *Зьвесткі пра самога М. Вярбу, яго жыцьцё ў Канадзе, а таксама вершы і бібліяграфію твораў можна будзе ўзяць з «Архіўнай кнігі», якую БІНіМ сёлета пляную выдаць.*

## Аб прызначэньні пісьменьніка

Я адчуваю, што ўзнагарода гэтая прысуджана ня мне, як чалавеку, але маёй працы — працы ўсяго майго жыцьця, што складаецца з поту і душэўных пакутаў, і рабілася ня дзеля славы і меней за ўсё дзеля выгоды, але дзеля таго, каб з матар'ялаў чалавецкага духу стварыць нешта тое, чаго дагэтуль не існавала. Такім чынам, я лічу, што ўзнагарода гэтая мне не даецца, але толькі даручаецца. Ня цяжка будзе знайсьці грашоваму ейнаму боку прыстасаваньне. Але я хачу знайсьці-ж такое прыстасаваньне і зьвязанай з гэтай узнагародай вядомасьці, карыстаючыся гэтым момантам, як вяршыняй, зь якой мяне, магчыма, пачуе мужчынская і жаночая моладзь, што прысьвяціла сябе такой-жа пакутнай працы, і што ужо мае ў сваім асяродзьдзі таго, хто калісьці будзе стаяць на тым мейсцы, дзе зараз стаю я.

Сучасная нашая трагедыя — усеагульны і паўсюдны фізычны жах. Мы адчуваем яго гэтак доўга, што ён робіцца нязносны. Гэта ўжо не духоўная праблема. Цяпер гэта толькі пытаньне: калі мяне ўзарвуць у паветра. У сувязі з гэтым малады пісьменьнік спакідае без увагі праблемы чалавечага сэрца — адзіныя праблемы, якія з'яўляюцца крыніцай добрае гістарычнае працы, бо гэта адзінае, аб чым варта пісаць, бо толькі яно заслугоўвае працы і пакутаў.

Малодыя пісьменьнікі мусяць зразумець, што самае нікчэмнае з усіх рэчаў — падпарадкавацца страху. Зразумеўшы тое, яны мусяць адкінуць страх назаўсёды, спакінуўшы у сваёй майстэрні мейсца адно для старых праўдзівых ісьцінаў сэрца — старых усеагульных ісьцінаў, без якіх любая аповесьць эфэмерна і асуджана. Гэта — каханьне, гонар, міласэрнасьць, спачуваньне, самаахвярнасьць. Пакуль яны гэтага ня зробяць, на іх працы будзе ляжаць праклён.

# СЫМОН ШАРЭЦКІ — СТАРШЫНЯ НОВАГА ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ

Сымон Георгіевіч Шарэцкі — беларус. Нарадзіўся 23 верасьня 1936 году ў вёсцы Лаўрышава Навагрудзкага раёну Гарадзенскай вобласьці. Бацька загінуў на фронце. Рос сіратой.

Скончыў Беларускую сельска-гаспадарчую акадэмію. Быў старшынём калгасу ў Навагрудзкім раёне. У 29 гадоў узнагароджаны ордэнам Леніна. Па сканчэньні Менскай вышэйшай партыйнай школы працаваў у ёй старшым выкладчыкам, а пасьля ўзначальваў кафэдру эканомікі і арганізацыі сельска-гаспадарчай вытворчасьці (1976-1984).

У 1984 годзе вяртаецца да працы ў сельскай гаспадарцы, выбіраецца старшынём калгасу «Чырвона сьцяг» Валожынскага раёну Менскай вобласьці. Адначасна працуе над доктарскай дысэртацыяй. Ад 1992 па 1994 год — дарадчык прэм'ер-міністра В. Кебіча па пытаньнях сельскай гаспадаркі.

Шарэцкі — доктар эканамічных навук, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі і Расійскай сельскагаспадарчай акадэміі, акадэмік Украінскай аграрнай акадэміі, акадэмік-сакратар Міжнароднай акадэміі інфармацыйных працэсаў і тэхналёгіяў.

Шарэцкі — адзін з заснавальнікаў Аграрнай партыі Беларусі, ейны старшыня ад 1992 году. 28 травеня 1995 г. выбраны ў Вярхоўны Савет. 10 студзеня 1996 г. абраны за Старшыню ВС 13-га скліканьня.

### *Выказваньні Сымона Шарэцкага, «умеркаванага левага»:*

***Пра эканоміку:***

«У дэмакратычным грамадзтве асоба і ўласнасьць павінны быць недатыкальныя... Пры ажыцьцяўленьні эканамічных рэформаў трэба пастарацца як мага меней разбурыць матэрыяльную базу буйной вытворчасьці. І таму разьдзяржаўленьне і прыватызацыю трэба разьдзяліць на малую і вялікую. Вялікую прыватызацыю на першым этапе трэба абмежаваць прыватызацыяй кіраваньня і вынікаў працы, а не ўласнасьці на сродкі вытворчасьці. Зрабіць гэта можна з дапамогай арэнды. А вельмі буйныя заводы, энэргетыка, сувязь, мэдыцына, асьвета і ў будучым павінны заставацца дзяржаўнымі.

Неабходна пашырыць межы прыватнай уласнасьці дзяржавы, якая бароніць яе як тавар ад рознага роду спэкуляцый».

***Пра палітыку:***

«Вярхоўны Савет павінен ствараць прававую базу для таго, каб выканаўчая ўлада магла рэалізаваць зададзеныя Вярхоўным Саветам кірункі ва ўнутранай і вонкавай палітыцы. ...

Нам трэба перастаць падманваць людзей, што як быццам можна аднавіць Савецкі Саюз. Мы павінны пашыраць нашы адносіны з Расіяй, але думаць, што мы заўтра з ёй аб'яднаемся, ці што яна нешта будзе прадаваць нам за поўцаны — гэта значыць быць проста наіўнымі людзьмі. Трэба пашыраць і ўмацоўваць сувязі зь іншымі дзяржавамі.

Не трэба думаць, што нам можна не залежаць ад Расіі. Ды гэта немагчыма, бо працэнтаў на восемдзесят адтуль усё завозіцца да нас і туды-ж накіроўваецца. Як мы можам не залежаць і ад Германіі, ці іншых краін, калі зь імі таксама трэба гандляваць».

***Пра культуру і нацыянальнае пытаньне:***

«Культура вызначае твар нацыі, а наша беларуская нацыя перажывае стадыю свайго адраджэньня, і тут дзяржава павінна быць у пэўнай ступені бабкай-павітухай, яна павінна дапамагчы аднавіцца нашай нацыі і атрымаць беларускія абрысы. Важна знайсьці меру, каб не заразіць грамадзтва бацылай нацыяналізму і ня згубіць свой беларускі твар.

Неяк я прачытаў надзіва разумную кнігу Ігната Абдзіраловіча — «Адвечным шляхам». Аўтар уздымае пытаньне аб беларускай ідэі: апісвае характар, мэнталітэт нашага народу. Уражвае, наколькі глыбока зазірнуў філосаф у душу беларуса... Я-б рэкамэндаваў усім нашым палітыкам прачытаць гэтую кнігу, шмат якія рэчы выясьніліся-б тады... Нам таксама ёсьць чым ганарыцца. Наша зямля дала сьвету Францыска Скарыну, Сымона Полацкага, Адама Міцкевіча, Давыда Гарадзенскага, Канстанціна Астрожскага. Продкі Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага — выхадцы зь Беларусі. У нас багатая прырода, наш край знаходзіцца ў цэнтры Эўропы, значыцца мы, як губка, здольныя ўспрыймаць і ўсходнюю, і заходнюю культуры». *(«Звязда», 11 і 19.96; «7 дней», 13.1.96; «Белорусская деловая газета», 15.1.96)*

# ВІДЭАСТУЖКА ПРА БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ДЗЕЯЧОЎ

У Менску кінастудыя «Летапіс» выдала пад кіраўніцтвам рэжысэра Юрага Лысятава некалькі відэастужак з жыцьця й дзейнасьці Аркадзя Смоліча, Аляксандра Ўласава, Браніслава Тарашкевіча, Максіма Гарэцкага ды Мітрафана Доўнар-Запольскага. Працягласьць стужак 5 (пяць) гадзінаў, а цана за ўсе істужкі 300 (трыста) даляраў. Зацікаўленыя няхай зварачаюцца па тэлефону: Арсень Ліс, Менск, тэл. 50-28-83.

## СЬВ. ПАМ. ЯНКА МІСЮЛЬ



Сьв. Памяці Янка Місюль нарадзіўся ў вёсцы Слабада, Вялейскага пав. 25-га кастрычніка 1904 г. Сям'я была працавітая й мелі добрую гаспадарку, на якой з маленства працаваў і нябожнык. Будучы прыкладным гаспадаром, быў праз 17 гадоў солтысам ў сваёй гміне. За гаспадарку і працу ў гміне яму прышлося здорава пацярпець пры Савецкай уладзе. У часе вайны падаўся на эміграцыю. У Нямеччыне працаваў у розных мясцох, трымаў лучнасьць зь беларускімі арганізацыямі, а ў 1952 годзе выехаў у Злучаныя Штаты Амэрыкі. Пасяліўся ў гор. Саўт Рывэры, дзе пражывае значная грамада ягоных землякоў зь Віленшчыны як старых, гэтак і навейшых эмігрантаў. Адразу ж улучыўся ў жыцьцё парафіі Сьв. Маці Жыровіцкае БАПЦ у Гайлянд Парку ды праз дзесяцігодздзі быў адным з актыўнейшых прахаджанаў. Шмат дапамагаў землякам на Беларусі, падтрымваў беларускі друк ды арганізацыі. Памёр 27-га студзеня 1996 г.

Быў цёплым і шчырым чалавекам і ў часе паховінаў вялікая грамада ягоных прыяцеляў і знаёмых прыйшла аддаць пашану нябожчыку. Вельмі прачула сказаў аб ім разьвітальнае слова настаяцель парафіі Сьв. Маці Жыровіцкае БАПЦ мітрафорны пратаерэй, айцец Васіль Андрэюк.

Нябожчык пакінуў па сабе ў Беларусі сына Генадзя, нявестку Вікторыю, 2-х унукаў, праўнукаў і дзьве сястры.

Шчыраму патрыёту, добраму сём'яніну й парафіяніну няхай будзе Вечная Памяць.

**Сям'я й парафіяне**

## У ПАМЯЦЬ ДАРАГОГА СЫНА



Споўнілася пяць гадоў ад прадчаснае сьмерці нашага незабыўнага, дарагога сына Эдварда. Зь нязгаснай любоўю ды ўспамінамі аб ім ахвяруем нашую скромную даніну на падтрыманьне газэты «Беларус».

**Аляксандра й Браніслаў Даніловічы, бацькі Эдварда**

## РЭФЛЕКСЫІ НА СЬМЕРЦЬ ДР. МІКОЛЫ ШЧОРСА

Кожны раз, як адыходзіць у лепшы сьвет былы сябра Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні — перад вачыма ўстаюць Сьвятаянскія муры, Базыльянскія муры зь Беларускім Музэем імя Івана Луцкевіча, вобраз у Саюзе на Завальнай ... і на душы робіцца цяжка... Паміpae сябра, памірае частка гісторыі твайго жыцьця, памірае частка беларускай гісторыі — Беларускага Студэнцкага Саюзу (БСС) ў Вільні. Важнасьці і значэньня пэрыяду існаваньня й дзейнасьці Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні нельга перабольшыць. Гэта была школа-унівэрсытэт, кузьня беларушчыны беларускіх студэнтаў Унівэрсытэту Сьцяпана Батуры (УСБ), асяродак будучых культурных грамадзка-палітычных беларускіх дзеячоў-незалежнікаў.

Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні меў сваю гасподу на вуліцы Завальнай пад нумарам 1. Гэта была частка памешканьня, дзе знаходзілася друкарня «Крыніцы», газэты, якую выдавала Хрысьціянская Дэмакрацыя — Хадэкі, а якая пашыралася й сеяла нацыянальную сьведамасьць па ўсёй Заходняй Беларусі. Сярод сябраў былі «хадэкі», прыкладам, Вацлаў Пануцэвіч, Чэсь Найдзюк, былі «правыя», прыкладам, Мікола Шчорс, былі й «левыя», прыкладам, Максім Танк. М. Танк фармальна сябрам БСС ня быў, бо ня быў студэнтам УСБ, але ён належаў да грамады тае сваёй дзейнасьцю. І ўсе яны разам тварылі гарманійную, цывілізаваную, сяброўскую супольнасьць.

Мікола Шчорс, так мы яго называлі, быў старэйшым, прынамсі ад мяне, усімі паважаным сябрам. Трымаўся з павагай і годнасьцю. Быў дзейным патрыётам, умеў красамоўна прамаўляць. Ня дзіва, што быў і шматгадовым старшынём Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні. За маіх часоў, а быў гэта апошні перадваенны акадмічны год, старшынём БСС быў Адам Дасюкевіч, хадэк. Скарбнікам БСС у той апошні год была Валентына Жукоўская. У Саюзе на Завальнай дастаткова было мастакаў. Быў хор пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы, што так хораша пяяў, апрацаваныя яго кіраўніком, беларускія народныя песьні.

Апрача Максіма Танка, настаўнікам пісаньня вершаў якога быў Вітаўт Тумаш, быў паэт Мітрафан Смаршчок, былі й іншыя. А калі так, дык была, і то багатая, літаратурная творчасьць! Ды пайшла яна ў маёй памяці ў нябыт... Засталіся толькі ўрыўкі з паэмы **«У Саюзе на Завальнай»**:

*У Саюзе на Завальнай*
*Назавем паэму гэту.*
*Старшыня ў шахматы грае,*
*Скарбнік дай, крычыць, манэту!*
...
*Каталік із* ***праваслаўным***
*Наш Вацлаў зь* ***Мікалаём***
*Адзін Ірачку займае.*
***Другі сам ходзіць арлом.***

Так пяе сага.

Хай-жа сьветлы Твой Дух, Дарагі Сябра, Мікола Шчорс, арліным палётам, «вечнасьці межаў» шукаючы, дасягне Усемагутнага Айца Бога і просіць Яго зьняць сьлепату з вачэй і душы Беларускага Народу, каб ён змог вярнуць Беларусі дзяржаўную незалежнасьць.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

Рэдакцыя «Беларуса» дзякуе за прысланыя газэтныя выразкі наступным асобам: А. Маркевічу, д-ру і сп-ні В. Рамук, д-р Ю. Кіпель, А. Міцкевічу, Я. Сурвілла, А. Кіпель, В. Мельяновічу, А. Баханчыку, К. Акулу, В. Багдановічу, Ю. Найдзюк.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**Фінансавая справаздача адміністратара-скарбніка сп. Сяргея Трыгубовіча**

| | |
|---|---|
| Я.Б.-Г.Д.-Г.Р.-В.Т. | ам. д. 120 |
| Бурдзь П. | 100 |
| Дэмковіч М. | 100 |
| Бельмач В. | 70 |
| Балтрушэвіч В. | 60 |
| Брылеўскі У. | 50 |
| Гайшун С. | 50 |
| Норык Л. | 50 |
| Пітушка Э. | 50 |
| Сямёнава А. | 50 |
| Траскевіч У. | 50 |
| Кажан В. | 40 |
| Шыколюк К. | 40 |
| Бахар Г. | 35 |
| Вініцкі К. | 30 |
| Семенчук А. | 30 |
| Стус Б. | 30 |
| Шурак Л. | 30 |
| Белямук М. | 25 |
| Нядзьвецкі П. | 30 |
| Яўтуховіч З. | 30 |

*У тым ліку у сьнежні на Калядныя віншаваньні прыслалі:*

| | |
|---|---|
| Абрамчык М. | 40 |
| Сьнежка М. | 25 |
| Андрэюк В. | 20 |
| Азарка Я. | 20 |
| Гутарчык Л. | 20 |
| Жучка Я. | 20 |
| Завістовіч Р. | 20 |
| Колба Т. | 20 |
| Кавалёў Л. | 20 |
| Непейн А. | 20 |
| Норык Л. | 20 |
| Пашкевіч В. | 20 |
| Яновіч Я. і В. | 20 |
| Стагановіч Л. | 20 |
| Стус Б. | 20 |
| Тулейка М. | 20 |
| Вініцкі К. | 20 |
| Татум Л. | 10 |

*Студзень 1996*

| | |
|---|---|
| Сурвілла Я. | 100 |
| Абрамчык М. | 60 |
| Грыцук О. | 50 |
| Латушкін М. | 50 |
| Руссак М. | 50 |
| Сьнежка М. | 50 |
| Бурдзь І. | 40 |
| Гуцько У. | 40 |
| Такушэвіч М. | 40 |
| Акановіч В. | 30 |
| Дубяго Г. | 30 |
| Жук-Грышкевіч Р. | 30 |
| Корчык Л. | 30 |
| Кумейша К. | 30 |
| Міровіч С. | 30 |
| Негода П. | 30 |
| Рапецкі Ю. | 30 |
| Сапежынскі Я. | 30 |
| Шастаковіч, А | 20 |
| Рагуля, М. | 100 |
| Філістовіч А. | 30 |
| Чорны Я. | 30 |
| Яновіч Я. | 30 |
| Пpускі М. | 25 |

*У студзені на Калядныя віншаваньні прыслалі:*

| | |
|---|---|
| БАПЦ Жыровіцкай Божай Маці | 50 |
| Кансысторыя БАПЦ | 50 |
| Сільвановіч А. | 25 |
| Сапежынскі Я. | 20 |
| Дубяга В. | 20 |

*Люты 1996*

| | |
|---|---|
| Даніловіч Б. і А. У памяць сына Эдварда | 200 |
| Касьцюк М. | 50 |
| Кулеш П. | 50 |
| Монід А. | 50 |
| Дубяго Г. | 30 |
| Міpановіч К. | 30 |
| Непейн А. | 30 |

**Ахвяраваньні на БІНіМ**

| | |
|---|---|
| А. Даніловіч | 50 |
| М. Грэбень | 50 |
| А. Субота | 65 |

*Ад нашага прадстаўніка ў Клівлендзе на 1996 г. сп. Андрэя Стрэчаня:*

| | |
|---|---|
| М. Белямук | 30 |
| І. Врэціц | 30 |
| О. Дубаневіч | 30 |
| Е. Кабяка | 30 |
| К. Калоша | 100 |
| Т. Канончук | 30 |
| Я. Каваленка | 40 |
| С. Карніловіч | 30 |
| Н. Кертес | 30 |
| О. Лукашэвіч | 30 |
| С. Махахей | 30 |
| К. Маталыцкі | 30 |
| А. Пракаповіч | 30 |
| Я. Раковіч | 30 |
| А. Сацэвіч | 30 |
| М. Страпко | 30 |
| А. Стречэнь | 150 |
| О. Стрэчань | 40 |
| М. Стрэчань | 30 |
| К. Стрэчань | 30 |
| Я. Ханенка | 30 |
| Я. Шымчык | 30 |
| М. Шпэндзік | 30 |
| Ю. Ягаўдзік | 30 |
| Я. Яраховіч | 30 |
| Разам | 990 |
| За паасобнікі газэты | 146 |
| Разам | 1,136 |